СЛОВА ЧЫТАЧА

# РАЗМОВА З ДЗЕЦЬМІ

«Сад піянерскі» — новая кніжка вершаў Кастуся Кірэенкі для дзяцей *. Творы паэта добра вядомы нашым школьнікам. Паэма «Алёнчына школа», напісаная дзесяць год назад, шчыра палюбілася ім. У ёй К. Кірэенку праз учынкі і ўспрыманне маленькай гераіні ўдалося па-майстэрску адлюстраваць барацьбу беларускіх партызан у часы Айчыннай вайны.

Паэт напісаў шэраг твораў для малодшага школьнага ўзросту. Яны ўвайшлі ў кнігу з паэтычнай назвай «Зялёнае рэха», якая засведчыла, што паэт тонка і глыбока адчувае прыроду, мае добрую назіральнасць і разумее дзіцячы свет.

Узяць хоць бы верш, які даў назву ўсёй кнізе. Асноўная вартасць гэтага твора ў тым, што паэт у займальнай форме паказвае веліч працы савецкіх людзей розных прафесій, у кожнай з якіх бачыць паэзію. Маленькі, дапытлівы хлопчык, ён хоча даведацца, што такое рэха. Падарожнічаючы з бацькам у час адпачынку па роднаму краю, Міхась бачыць, як усюды кіпіць праца. І К. Кірэенка вобразна пераасэнсоўвае з'яву. Хлопчык успрымае паняцце рэха як «рэха працы».

У новай кнізе паэта змешчаны вершы аб Радзіме, партыі, аб працы і адпачынку дзяцей, паказваюцца іх думкі аб будучай прафесіі.

Калі параўнаць тэматыку «Сада піянерскага» з тэматыкай ранейшых кніжак — «Зялёнае рэха» і «Вясна-красна», можна з упэўненасцю сказаць, што дыяпазон творчасці К. Кірэенкі для дзяцей пашыраецца.

Н. К. Крупская ў артыкуле «Якая кніга патрэбна дзецям» пісала: «...добра было б, каб самыя лепшыя, самыя таленавітыя мастакі слова гаварылі: «Нічога б я так не хацеў, каб навучыцца пісаць для дзяцей». «Сад піянерскі» сведчыць, што К. Кірэенка старанна авалодвае майстэрствам пісаць для дзяцей цікава і змястоўна.

Пры знаёмстве з вершамі, якія змешчаны ў новай кнізе, пераконваешся, што паэт імкнецца адбіраць з навакольнага жыцця найбольш важнае, значнае, каларытнае.

Тут і глыбокі роздум маленькіх сяброў у час наведвання музея Айчыннай вайны, і здагадкі аб тым, «хто на Марс ці на Венеру першым ступіць», і радасць з выпадку атрыманай пяцёркі.

Цікавы ў зборніку верш «Радзіма». Паэт вядзе размову з дзецьмі аб самым блізкім сэрцу чалавека:

Лепей за ўсе мне на свеце мясціна
Тая, дзе я нарадзіўся і ўзрос.
Бэз пад акном і на полі каліна...
Ціхае сонца, блакіты нябёс... —

Прачула і патрыятычна гучыць матыў любві да роднага краю, да сваёй бацькаўшчыны і ў іншых радках:

Дзе ні жыву, ўспамінаю да рыскі
Усё, аб чым слова ў душы берагу.
Кожны куточак, знаёмы і блізкі,
Усюды са мной.
Не згадаць не магу...

Што патрэбна, каб у сонечную даль на ракеце ўзвіцца? — вось тэма спрэчак піянераў з верша «Песня пра спадарожнік». Гэты верш арыгінальны і добры па форме, ён імпануе сённяшняму жыццю нашых школьнікаў. Паэт як быццам падслухаў спрэчкі хлопчыкаў, таму ад верша павявае свежасцю і непасрэднасцю думкі. К. Кірэенка пераканаўча даказвае дзецям, што для заваёў касмічных прастораў неабходны навуковыя веды, смеласць думкі, пачуццё дружбы.

Здаецца толькі, што дарэмна паэт пасля заканчэння спрэчак піянераў сам яшчэ імкнецца сказаць у іх адрас некалькі добрых слоў. Верш сюжэтна ўжо скончыўся, і словы паэта не гучаць пераканаўча, — у іх няма шчырасці і прастаты.

У дзіцячай літаратуры многа твораў аб дружбе, вучобе, працы школьнікаў. І справа кожнага пісьменніка, які зноў звяртаецца да гэтых тэм, — не паўтараць, не капіраваць сваіх папярэднікаў, а шукаць сваё.

У лепшых вершах К. Кірэенка дамагаецца навізны. У новай кніжцы ёсць жыццярадасныя, светлыя вершы аб прыродзе. Большасць іх напісана займальна, свежа, цікава.

Некаторыя старонкі кнігі, на жаль, ніжэй магчымасцей аўтара. Дробным, неістотным здаецца нам змест вершаў «Рыбакі», «Чый след». Паэту трэба пазбягаць апісальнасці, абстрактных вобразаў, складаных параўнанняў.

Адсутнасць глыбокай думкі, рытарычнасць вядуць да неахайнасці формы, шурпатасці мовы. У кнізе можна сустрэць такія радкі:

Каб пасля ў **вялікай працы**
Змог заўсёды захапляцца
**Намі**
край **наш у жыцці!**

Або чатырохрадкоўе з верша «Дружбакі»:

Дружбакі жывуць не побач,
Пралягла між імі даль,
Палавіна ўсёй Еўропы
**Паміж** хлопцамі **амаль.**

Некалькі слоў пра «адрас» кніжак для дзяцей. Кніжка «Сад піянерскі», як і «Вясна-красна», прапануецца чытачам сярэдняга школьнага ўзросту, але тут многа твораў, напісаных для малодшага ўзросту і нават для дашкольнікаў. Гэта перш за ўсё вершы «Наша вёска», «Пра загадкі і адгадкі» і інш. Або ці задаволіць вучняў пятых—сёмых класаў такая, напрыклад, загадка з верша «Пра загадкі і адгадкі»:

Што за белыя мушынкі,
Не мушынкі, а імшынкі,
Не імшынкі, а імжынкі
На зямлю ляцяць з нябёс?

Нельга не сказаць аб мастацкім афармленні кнігі. Ранейшыя зборнікі паэта для дзяцей былі выдадзены і аформлены больш удала, чым гэта. Па-першае — мяккая вокладка. Трапіўшы ў бібліятэку, кніга праз тры — чатыры выдачы страціць свой выгляд. Далей. Малюнкі да некаторых вершаў невыразныя, не адпавядаюць зместу. Сумны, абыякава зроблены малюнак да верша «Першая настаўніца». Замест малюнка да верша «Чый след?» атрымалася чорная пляма.

**І. РАЗАНАЎ.**

* **Кастусь Кірэенка.** Сад піянерскі. Дзяржаўнае выдавецтва БССР. Рэдакцыя дзіцячай і юнацкай літаратуры. Мінск. 1960.

## Тэатральны тыдзень

На Гомельшчыне з поспехам прайшоў тэатральны тыдзень. Народныя тэатры і самадзейныя драматычныя калектывы пазнаёмілі працоўных вобласці са сваімі дасягненнямі.

На сцэне Палаца культуры чыгуначнікаў імя Ул. І. Леніна выступілі Мазырскі народны тэатр («Юнацтва бацькоў» Б. Гарбатава), драматычны калектыў Брагінскага раённага Дома культуры («Выбух» М. Алтухова і М. Гарулёва), драматычны калектыў клуба чыгуначнікаў станцыі Калінкавічы («Платон Крэчат» А. Карнейчука). Самадзейныя артысты Калінкавіцкага раённага Дома культуры пазнаёмілі гамяльчан са спектаклем «Васа Жалязнова» па п'есе М. Горкага.

На спектаклях пабывалі рабочыя і інжынеры завода «Гомсельмаш», станкабудаўнічага завода імя Кірава, абутковай фабрыкі «Праца», трыкатажнай фабрыкі «8 сакавіка», чыгуначнікі, будаўнікі, студэнты, удзельнікі мастацкай самадзейнасці рабочых клубаў горада.

**В. СЯМЕНАЎ.**

## ЭНТУЗІЯСТЫ

Добрую справу робіць Беларуская дзяржаўная філармонія, прапагандуючы музычнае мастацтва сярод шырокіх народных мас. Нядаўна калектыў сімфанічнага аркестра пад кіраўніцтвам дырыжора Я. Дуброўскага выступіў з канцэртам у чырвоным кутку кавальскага цэха Мінскага аўтазавода. Выконваліся лепшыя ўзоры класічнай музыкі.

Выступленне сімфанічнага аркестра на адным з буйнейшых прадпрыемстваў рэспублікі было сустрэта рабочай аўдыторыяй з вялікай удзячнасцю.

**І. КАВАЛЕЎСКАЯ.**

# Фільмы ў сакавіку

Кінагледачы рэспублікі пазнаёмяцца з радам новых фільмаў. На экраны выйдзе мастацкая кінааповесць «Хмары над Борскам», створаная рэжысёрам В. Ардынскім на кінастудыі «Масфільм» па сцэнарыю С. Луніна і І. Нусіна. Гэты кінатвор выкрывае сектантаў, паказвае агіднае аблічча святош і фанатыкаў.

Зацікавіць гледачоў каляровая кінакамедыя Ленінградскай студыі «Асцярожна, бабулька!», у якой удзельнічае папулярная савецкая кінаартыстка Ф. Раневская.

У нашай краіне шырока вядома імя выдатнага акына, заснавальніка кіргізскай савецкай літаратурыТактагула Сатылганава. Многія драматычныя падзеі жыцця вялікага акына Кіргізіі пакладзены ў аснову фільма «Тактагул» (Фрунзенская кінастудыя). Сцэнарый напісалі кінадраматург Н. Кладо і дачка акына Гульсара Тактагулава.

Фільм «Паўночная вясёлка» (аўтар сцэнарыя Р. Кочар, рэжысёр-пастаноўшчык Арташэс Ай-Арцян) выпускае на экраны кінастудыя «Арменфільм».

...У трывожны час даводзіцца спраўляць вяселле Вардана і Манушак. Не паспелі адгучаць вясёлыя мелодыі зурны, як персідскія воіны наляцелі на сяло. Армяне звяртаюцца за дапамогаю да галоўнакамандуючага рускімі войскамі на Каўказе. Той імкнецца мірна вырашыць канфлікт і пасылае ў Тэгеран для дыпламатычных перагавораў А. Грыбаедава. Пра ўсё, што адбылося далей, гледачы даведаюцца, паглядзеўшы фільм.

Новы фільм Я. Сегеля «Бывайце, галубы!», створаны ім па ўласнаму сцэнарыю, расказвае пра лёс падлетка, які пачынае працоўны шлях.

На Маскоўскай кінастудыі імя М. Горкага па аповесці А. Свірскага пастаўлены фільм «Рыжык». Складаны і шматгранны вобраз хлопчыка-сіраты стварыў Сярожа Залатароў, вучань чацвёртага класа адной з маскоўскіх школ.

Студыя «Грузіяфільм» выпускае на экраны мастацкую кінааповесць пра лёс інжынера-будаўніка «Выпадак на пляціне».

З цікавасцю дзеці паглядзяць новыя каляровыя мультыплікацыйныя фільмы «Чалавека намаляваў я», «Мыш і леў», «Машанька і мядзведзь» і інш.

З зарубежных фільмаў будуць дэманстравацца: венгерскі —«Катастрофа», кітайскі — «Крама пана Ліня», карэйскі — «Піянерскае сумленне», грэчаскі — «Салдаты без мундзіраў», французскі — «Жэрвеза», вытворчасці кінастудыі «ДЭФА» (ГДР) — «Справа аб разводзе», «Тайна карабля, які затануў» і інш.

**Н. КУЗЬМІЦКАЯ.**

**На здымках:** кадры з фільмаў «Асцярожна, бабулька!» (унізе) і «Хмары над Борскам».

## «КВЕТКІ ЖЫВЫЯ»

Мінская тэлестудыя паказала новы спектакль па п'есе Мікалая Пагодзіна «Кветкі жывыя». Спектакль паставіў Ус. Кухта. Аператары В. Яфімаў, А. Русецкі. Мастак М. Бугроў.

**На здымку:** сцэна са спектакля. У ролях (злева направа): Родзін — народны артыст БССР **С. Бірыла,** Алачка — артыстка **Л. Цімафеева,** Мікалай — заслужаны артыст БССР **М. Яроменка.**

Фота **Я. Альхімовіча.**

Культурна-асветнай рабоце—шырокі размах!

# ЧУЛАСЦЬ І ЎВАГА

Мы ехалі з пасёлка цэментнікаў у Крычаў. На адным прыпынку ў аўтобус увайшла ўжо немаладая, невысокага росту жанчына. І адразу ж некалькі чалавек усталі са сваіх месц і ветліва прапанавалі жанчыне сесці.

У наступны раз я назіраў, як ля касы кінатэатра людзі, што стаялі ў чарзе, прапаноўвалі гэтай жа жанчыне узяць білет без чаргі. І яшчэ я бачыў, як нават на вуліцы сустрэчныя звярталіся да яе з запытаннямі, дзе знайсці тую ці іншую кнігу.

Неяк вечарам, калі ў раённай бібліятэцы канчаўся рабочы дзень, да загадчыцы бібліятэкі Антаніны Міхайлаўны Крупадзёравай падыйшла дзяўчына:

— Я хачу параіцца з вамі, Антаніна Міхайлаўна.

— Аб чым?

— Скажыце, як мне быць. Я пакахала чалавека, якога ўсе лічаць хуліганам.

Антаніна Міхайлаўна ўважліва выслухала дзяўчыну і доўга гутарыла з ёю.

Ідуць людзі да Антаніны Міхайлаўны як да чалавека з вялікім жыццёвым вопытам, як да маці, старэйшага таварыша, настаўніцы. І гэта невыпадкова. За 25 год сваёй працы бібліятэкарам Антаніна Міхайлаўна набыла вялікі вопыт па прапагандзе кніг, ведаў, заслужыла аўтарытэт у многіх жыхароў горада і раёна.

Дваццаць пяць год назад бібліятэкарам школы трактарных брыгадзіраў пачынала Антаніна Міхайлаўна сваю працоўную дзейнасць. Тады ёй давялося самой ствараць бібліятэку: купляць літаратуру, абсталёўваць памяшканне... Гэтай жа справай займалася яна і ў 1944 годзе, калі пасля вызвалення Крычава ад фашыстаў вярнулася з Саратаўскай вобласці ў родны горад. Райвыканком накіраваў тады Антаніну Міхайлаўну ў раённую бібліятэку.

— Бібліятэкі яшчэ не было, — расказвае Крупадзёрава. — Нам давялося арандаваць прыватнае памяшканне, хадзіць па дамах, ездзіць у вёскі і збіраць кнігі. За першы год бібліятэка была створана. Яна налічвала тады тысячу кніг.

Гэта было ў 1945 годзе. Пасля бібліятэка атрымала новае памяшканне, павялічыўся кніжны фонд. Цяпер на яе паліцах — больш дваццаці тысяч кніг, вялікая колькасць брашур і часопісаў. 2 700 чытачоў карыстаецца паслугамі бібліятэкі.

— І гэта не мяжа, — гаворыць загадчыца. — Мы імкнёмся яшчэ больш павялічыць колькасць чытачоў.

І сапраўды, работнікі раённай бібліятэкі робяць усё, каб кніга стала сябрам і дарадцам кожнага чалавека. Пры бібліятэцы створана пятнаццаць перасовак, рэгулярна праводзяцца канферэнцыі чытачоў, літаратурныя вечары, вечары пытанняў і адказаў, сустрэчы з пісьменнікамі, наладжваюцца кніжныя выстаўкі, лекцыі, даклады і бібліяграфічныя агляды.

Аб добрай рабоце бібліятэкі гавораць і лічбы. У 1960 г. чытачам было выдадзена амаль пяцьдзесят тысяч кніг. Здараецца і такое, калі ў бібліятэцы не аказваецца патрэбнай чытачу кнігі. Але попыт яго заўсёды будзе задаволен. Кнігу выпішуць з абласной ці Мінскай бібліятэкі, і чытач яе атрымае. Асабліва часта такім шляхам атрымліваюць падручнікі студэнты-завочнікі, рацыяналізатары, прапагандысты і агітатары, кіраўнікі гурткоў палітычнай асветы і іншыя.

Нядаўна за шматгадовую работу Антаніна Міхайлаўна Крупадзёрава Міністэрствам культуры СССР была ўзнагароджана значком «За выдатную работу». Павіншаваць яе прыйшлі многія чытачы бібліятэкі.

**П. ШАЎЦОЎ,**
**слухач Мінскай Вышэйшай партыйнай школы.**

# Снег ды вецер...

Аднойчы ў клубе калгаса «Непераможны сцяг» Дзяржынскага раёна сабралася моладзь на камсамольскі сход. Размову павялі аб тым, як палепшыць культурна-масавую работу, з чаго пачаць. Слова ўзяў малады трактарыст Леў Сцефановіч:

— Пачынаць — вядома з чаго. Клуб трэба рамантаваць. Вось рыхтуем канцэрт мастацкай самадзейнасці, а выступіць няма дзе. Падлога правалілася, у шыбы вецер дзьме.

Летась моладзь папрасіла старшыню калгаса т. Зуеўскага, каб ён дапамог адрамантаваць клуб.

— Добра, дам распараджэнне, — паабяцаў той.

Але праходзяць дні і месяцы, а справа — ні з месца. Напомнілі яшчэ. Старшыня разводзіць рукамі:

— Нічога не выходзіць, няма рабочай сілы.

— Дык мы ўсё самі зробім, толькі дошак дайце.

— Дошак дадзім, пашукаем.

І шукае да гэтага часу.

У раёне гэта не адзіны факт, калі кіраўнікі калгасаў не праяўляюць клопатаў аб культурным адпачынку хлебаробаў.

Вось яшчэ характэрны прыклад. Сельгасарцель «Кастрычніцкая рэвалюцыя» — адна з лепшых на Дзяржыншчыне. Тут і ўраджаі добрыя, і прадуктыўнасць грамадскага статку высокая. З году ў год растуць даходы гаспадаркі. Адным словам, ёсць усе магчымасці, каб пабудаваць, нарэшце, для калгаснікаў сапраўдны клуб.

А што атрымліваецца на справе? На цэнтральнай сядзібе арцелі, у вёсцы Грычына, ёсць будынак клуба. Але паглядзіце на яго: сцены абшарпаныя, столь дзіравая. Некалькі разоў праўленне калгаса выносіла рашэнне аб рамонце. Але яно застаецца на паперы.

У брыгадах клубныя памяшканні яшчэ ў горшым стане. Нядаўна мне давялося пабываць у калгасе імя Сталіна. Сабраліся пасля работы людзі да клуба, што ў вёсцы Клыпаўшчына, а ён — на замку. Загадчык даўным-даўно з'ехаў з вёскі, а новага ўсё яшчэ не прызначылі. Сяк-так адчынілі дзверы, зайшлі. Ні святла няма, ні лавак. Давялося гутарыць стоячы. Ведаюць пра гэта і старшыня калгаса т. Майсяевіч і брыгадзір т. Вайцяховіч, а мер ніякіх не прымаюць.

У іншых калгасах у кожнай брыгадзе пабудавалі прасторныя, светлыя, цёплыя клубы — люба зайсці. А тут нават да таго, што ёсць, рукі не даходзяць.

**Ул. КУКСА,**
**інструктар Дзяржынскага райкома камсамола.**

## ЖАДАНЫ ГОСЦЬ

Пятнаццаць год працуе кінамеханікам Павел Васільевіч Целяпнёў. Добра ведаюць яго ў раёне і малыя і дарослыя. Няма той вёскі, дзе б ён не пабываў з сваёй кінаперасоўкай. І ўсюды сустракаюць яго, як жаданага госця.

Нялёгкая ў кінамеханіка праца, але Павел Васільевіч яе любіць, бачыць яе плённыя вынікі. Летась у спаборніцтве кінамеханікаў раёна ён заваяваў першынство — яшчэ ў лістападзе выканаў гадавы план па ўсіх паказчыках.

У апошні час П. Целяпнёў дэманструе фільмы для жыхароў пяці вёсак Шарсцінскага сельскага Савета. Кожны месяц ён праводзіць па 40 сеансаў, з іх да дзесяці дзіцячых і столькі ж сельскагаспадарчых. Не было выпадку, каб гледачы скардзіліся на якасць паказу фільмаў. Нездарма ж Павел Васільевіч носіць ганаровае званне — «Лепшы кінамеханік Беларускай ССР».

**Л. КАРМАЧОЎ,**
**інструктар Веткаўскага РК КПБ.**

У МУЗЕІ КУПАЛЫ

# Цёплым, сардэчным словам

У Мінску праводзяцца купалаўскія чытанні, у якіх прымаюць удзел працоўныя сталіцы, студэнцкая моладзь. 25 лютага ў Літаратурным музеі Янкі Купалы адбылася сустрэча студэнтаў Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Ул. І. Леніна, палітэхнічнага і педагагічнага інстытутаў, бібліятэчнага тэхнікума з пісьменнікамі і сваякамі Янкі Купалы.

Сустрэчу адкрыў дырэктар музея Янка Шарахоўскі. Затым удзельнікі сустрэчы выступілі з успамінамі пра народнага паэта Беларусі і яго жонку Уладзіславу Францаўну Луцэвіч.

Сястра Янкі Купалы — Леакадзія Дамінікаўна Раманоўская расказала аб дзяцінстве, юнацтве і пачатку творчага шляху Купалы, аб тым, як ён настойліва вучыўся і працаваў.

Вядомы ўкраінскі паэт Тэрэнь Масэнка расказаў аб сустрэчах з беларускім песняром, аб тым, як працаваў над перакладамі твораў Купалы на ўкраінскую мову.

— У наступным годзе, — сказаў ён, — беларускі народ будзе адзначаць 80-годдзе з дня нараджэння сваіх вялікіх паэтаў — Купалы і Коласа. Гэта будзе свята не толькі беларусаў, але і ўкраінцаў, усіх народаў Савецкага Саюза. Творчасць Купалы і Коласа, як і творчасць Пушкіна, Шаўчэнкі і іншых нашых класікаў, вядома далёка за межамі краіны. Але мы павінны з яшчэ большай любоўю і стараннасцю прапагандаваць іх творчыя здабыткі сярод шырокага кола чытачоў, асабліва сярод моладзі.

З хвалюючым словам пра Янку Купалу і Уладзіславу Францаўну Луцэвіч выступіў Пятро Глебка. Міхась Калачынскі, Рыгор Няхай і Пятро Прыходзька прачыталі вершы, прысвечаныя памяці Янкі Купалы і Уладзіславы Францаўны Луцэвіч.

У сустрэчы прынялі ўдзел паэты Максім Лужанін, Анатоль Вялюгін, супрацоўнікі музея, выкладчыкі мінскіх ВНУ.

## Новыя матэрыялы

У Літаратурны музей Янкі Купалы паступілі новыя матэрыялы пра народнага паэта. Сярод іх калекцыя рэдкіх газет, якія выходзілі ў 20-х гадах на тэрыторыі Беларусі і Польшчы. Яе перадаў музею член-карэспандэнт Акадэміі навук СССР В. Баркоўскі. У іх надрукаваны вершы Янкі Купалы. Паступілі таксама дарэвалюцыйныя выданні твораў паэта і яго рэдкая фатаграфія з асабістым аўтографам. Грузінскі паэт А. Шанідзе, які нядаўна наведаў Мінск, перадаў музею копіі некалькіх пісьмаў, напісаных яму Купалам. Яны адносяцца да 30-х гадоў.

Новыя матэрыялы ўвойдуць у экспазіцыю, прысвечаную 80-годдзю з дня нараджэння паэта. Да гэтай даты музей збірае таксама ўспаміны грамадскіх дзеячоў і пісьменнікаў, якія блізка ведалі Янку Купалу. Такія матэрыялы перадалі ўжо акадэмік Акадэміі навук БССР Ц. Гарбуноў, пісьменнікі П. Броўка, П. Глебка, В. Сасюра, А. Вянцлова, П. Тычына і некаторыя іншыя. На іх аснове выдавецтва «Советский писатель» выпусціць зборнік «Янка Купала ва ўспамінах сучаснікаў».

# СУЧАСНАЯ НАРОДНАЯ ПАЭЗІЯ

ДА ВЫНІКАЎ КОНКУРСУ ПА ЗБІРАННЮ ФАЛЬКЛОРУ

Вусная народная паэзія як важная частка нацыянальнага мастацтва мае вялікае значэнне ў духоўным жыцці працоўных мас. Вывучаць народную творчасць — значыць глыбей пранікаць у запаветныя мары і жаданні народа.

Вывучэнне беларускага фальклору мае вялікую гісторыю. Буйнейшымі збіральнікамі і даследчыкамі яго ў дарэвалюцыйныя часы былі Раманаў, Дабравольскі, Федароўскі, Шэйн, Пыпін, Карскі, Сержпутоўскі і інш.

Многія савецкія вучоныя-гісторыкі, этнографы, літаратуразнаўцы, фалькларысты прысвяцілі свае даследаванні беларускай народнай вусна-паэтычнай творчасці.

Шмат народных твораў сабралі і паэтычна апрацавалі Я. Колас, Я. Купала, Зм. Бядуля, К. Крапіва, А. Якімовіч.

Вельмі каштоўныя зборнікі беларускіх песень кампазітараў М. Аладава, М. Чуркіна, народнага артыста СССР Р. Шырмы і народнага артыста СССР Я. Цікоцкага.

Але шмат твораў народнай беларускай паэзіі, якія ўзніклі раней і ўзнікаюць штодзень у наш час, яшчэ не запісаны, многія куткі нашай рэспублікі не вывучаны фалькларыстамі.

Каб запоўніць гэтыя прабелы і ахапіць фальклорнымі запісамі ўсе раёны БССР, Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР правёў конкурс на лепшага збіральніка беларускага фальклору і народнага меласу. Вынікі конкурсу паказалі, што сучасная народная паэзія жыве паўнакроўным жыццём, вылучаецца глыбокай ідэйнасцю, выключнай актуальнасцю і высокім майстэрствам.

Атрыманыя ад удзельнікаў конкурсу фальклорныя матэрыялы сведчаць, што зараз асноўнымі жанрамі народнай творчасці з'яўляюцца частушкі, прыказкі, прымаўкі, песні. Менш поўна ў запісах нашых шматлікіх карэспандэнтаў прадстаўлены празаічныя жанры. Усяго даслана на конкурс звыш 8 000 тэкстаў.

У конкурсе прынялі ўдзел 118 рабочых, калгаснікаў, навуковых супрацоўнікаў і літработнікаў, настаўнікаў, студэнтаў, вучняў і інш. У конкурсе ўдзельнічалі асобныя збіральнікі, а таксама чатыры студэнцкія калектывы і дзве вучнёўскія групы.

Журы пастанавіла прысудзіць першую прэмію калектыву студэнтаў Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі. Пад кіраўніцтвам выкладчыка Л. Мухарынскай гэты калектыў сабраў у розных раёнах Беларусі багаты і разнастайны матэрыял. Запісаныя дакладна і на высокім навуковым узроўні песні даюць поўнае ўяўленне аб меладычным багацці і нацыянальнай самабытнасці беларускага музычнага фальклору. Многія з запісаных мелодый вылучаюцца высокімі мастацкімі якасцямі і павінны зацікавіць выканаўцаў.

Другія прэміі атрымалі калектыў студэнтаў Брэсцкага педінстытута (кіраўнік дацэнт Ул. Калеснік) і Э. Ледаховіч.

Музычныя запісы Э. Ледаховіча разнастайныя па жанраваму складу. Сярод іх многа песень на сучасную тэматыку. Асабліва цікавыя запісы шматгалосных песень, якія адлюстроўваюць фармаванне новага харавога стылю ў беларускай народнай музыцы.

У запісах студэнтаў Брэсцкага педінстытута пераважаюць частушкі і песні. Сярод іх значная колькасць сучасных твораў, асабліва твораў перыяду Вялікай Айчыннай вайны. Звяртаюць на сябе ўвагу таксама гістарычныя паданні, антыпрыгонніцкія і антырэлігійныя творы.

У запісах В. Шымука і Л. Царанкова (другая і трэцяя прэміі) захавана мясцовая гутарковая мова, творы вылучаюцца высокім мастацкім узроўнем. Збіральнікі даюць сціслую характарыстыку носьбітаў фальклору і паказваюць абставіны, у якіх праводзіліся запісы.

Запісы студэнтаў Мінскага педінстытута (трэцяя прэмія) ахопліваюць розныя мясцовасці Беларусі і даюць багаты матэрыял для вывучэння абрадавай паэзіі. Але кіраўнікі фалькларыстаў Мінскага педінстытута М. Пятровіч і С. Гурвіч мала аддавалі ўвагі запісам сучасных форм беларускай народнай творчасці.

Трэцюю прэмію атрымаў М. Янкоўскі, які даслаў на конкурс гістарычныя, салдацкія, сірочыя песні і некалькі песень і частушак перыяду Вялікай Айчыннай вайны. Такая ж узнагарода прысуджана А. Емяльянаву. Дасланыя ім песні, частушкі, прыказкі і прымаўкі запісаны ў адной вёсцы і даюць багаты матэрыял для назірання за іх відазмяненнямі.

У запісах студэнта Гомельскага педінстытута В. Гусціновіча (трэцяя прэмія) звяртаюць на сябе ўвагу жартоўныя песні.

Заахвочвальную прэмію журы прысудзіла вучням 8 класа 43 сярэдняй школы Мінска. Фальклорныя запісы вучняў зроблены ў час паходу па роднаму краю, пашпартызаваны і добра аформлены.

Сярод матэрыялаў, запісаных І. Тулупавым (заахвочвальная прэмія), ёсць самыя надзённыя частушкі пра апошнія дасягненні савецкіх людзей у народнай гаспадарцы, навуцы, міжнародным жыцці:

Кажуць, больш вайны не будзе,
Будзе болей трактароў,
Бо вайны не хочуць людзі
І за мір стаіць Хрушчоў.

Або:

Хутка скончу я завочна
У Горках Акадэмію,
Нездарма я атрымала
У калгасе прэмію.

У запісах І. Курбекі (заахвочвальная прэмія) многа добрых дзіцячых песень, лічылак, калыханак.

Сярод разнастайных запісаў калгасніцы Т. Місевіч (заахвочвальная прэмія) ёсць рэдкія ўзоры вясельных маршаў і лірычных песень, а таксама хаўтурныя галашэнні. Т. Місевіч актыўна дапамагае супрацоўнікам Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору ў выяўленні народнага меласу. Яна — пастаянны карэспандэнт інстытута.

Ужо некалькі год дасылае ў сектар фальклору інстытута свае запісы А. Русіновіч (заахвочвальная прэмія). Сярод атрыманых ад яго матэрыялаў ёсць эпічныя творы часоў Вялікай Айчыннай вайны.

Астатнім удзельнікам конкурсу дырэкцыя і партарганізацыя інстытута паслалі граматы і лісты з падзякай.

Конкурс дапамог наблізіць работу сектара фальклору да жыцця народа, наладзіць больш шырокую перапіску з насельніцтвам. Фальклорныя матэрыялы дасылаюцца і зараз, пасля конкурсу.

Актыўных аматараў фальклорнай справы шмат. Але іх трэба арганізоўваць і падтрымліваць. Некаторыя раённыя газеты сістэматычна рэцэнзуюць фальклорныя выданні. Шмат цікавых народных песень, частушак, прыказак збіраюць вучні па заданнях рэдакцыі газеты «Піянер Беларусі». У газеце «Советская Белоруссия» таксама ўжо з'явіўся фальклорны куток «Народная мудрасць».

Вельмі пажадана, каб усе раённыя і абласныя газеты рэспублікі час ад часу друкавалі запісаныя ў іх мясцовасцях фальклорныя творы.

**Старшыня журы — акадэмік АН БССР П. ГЛЕБКА.**

**Загадчык сектара фальклору — прафесар І. ГУТАРАЎ.**

У лютым спаўняецца 130 год з дня нараджэння выдатнага рускага жывапісца М. Ге.

**На здымку:** М. Ге — лінагравюра магілёўскага мастака **А. Кандрусевіча.**

# ВЫЙШЛІ З ДРУКУ

Выйшлі з друку і паступілі ў продаж наступныя кнігі мастацкай, дзіцячай і музычнай літаратуры, выдадзеныя Дзяржаўным выдавецтвам БССР.

**Змітрок Бядуля.** Салавей. Аповесць. На рускай мове. Пераклад з беларускай мовы П. Кабзарэўскага. Мастак І. Немагай.

Аўтар аповесці з глыбокім пранікненнем у чалавечы лёс і характары малюе эпоху прыгоннага права на Беларусі і тыя жорсткія ўмовы жыцця, у якіх часта гінулі таленавітыя людзі — выхадцы з народных глыбінь.

Тыраж 50 тыс. экз., стар. 160. Цана 46 кап.

**Алесь Кучар.** Аб мастацкай прозе. Літаратурна-крытычныя артыкулы.

Зборнік прысвечан разгляду празаічных твораў беларускіх пісьменнікаў. Аўтар дае грунтоўны аналіз раманаў «Язэп Крушынскі» Змітрака Бядулі, «Трэцяе пакаленне» Кузьмы Чорнага, «Сустрэнемся на барыкадах» Піліпа Пестрака, «Калі зліваюцца рэкі» Петруся Броўкі, аповесцей Івана Шамякіна «Трывожнае шчасце». Асобны артыкул прысвечан творчасці Янкі Брыля. Разглядаючы празаічныя творы, аўтар шырока асвятляе праблемы жанра рамана, сучаснай мастацкай прозы.

Мастак Л. Прагін. Тыраж 5 тыс. экз., стар. 348. Цана 88 кап.

**Валянцін Панамароў.** На хвалях жыцця. Нарысы і замалёўкі журналіста. На рускай мове. Мастак Ю. Архіпаў. Тыраж 10 тыс. экз., стар. 276. Цана 43 кап.

**Уладзімір Юрэвіч.** Слова і вобраз. Назіранні над мовай мастацкіх твораў.

У кнізе расказваецца аб тым, як пісьменнік у пошуках вобраза знаходзіць тыя словы, што дапамагаюць яму з найбольшай выразнасцю данесці да чытача ідэю, раскрыць характары герояў, як у гэтых пошуках нараджаюцца самабытнасць стылю, адзінства формы і зместу, без якога нельга ўявіць сабе рэалістычнага твора.

Вокладка і тытул С. Русака. Тыраж 4 тыс. экз., стар 152. Цана 48 кап.

**Павел Кавалёў.** Лёнька Гром. Аповесць. Для сярэдняга і старэйшага ўзросту.

У кнізе расказваецца пра хлопчыкаў, якія па розных прычынах трапілі пад уплыў вуліцы, пакінулі школу, сям'ю, бадзяюцца, крадуць. Аўтар паказвае выхавацеляў, настаўнікаў працоўнай калоніі, супрацоўнікаў міліцыі, якія не шкадуюць сілы і энергіі, каб вярнуць беспрытульных хлопчыкаў на правільны жыццёвы шлях.

Мастак А. Волкаў. Тыраж 10 тыс. экз., стар. 228. Цана 41 кап.

**Янка Маўр.** Збор твораў у двух тамах. Том 2.

У кнігу ўвайшлі аўтабіяграфічная аповесць «Шлях з цемры», «ТВТ» і «Палескія рабінзоны», апавяданчі, сатырычная антырэлігійная казка «Падарожжа ў пекла».

Мастак М. Гуцієў. Тыраж 20 тыс. экз., стар. 628. Цана 1 руб. 20 кап.

**Беларускія народныя песні.** Том 2. Запіс Р. Шырмы. Мастак І. Славянін. Тыраж 3 тыс. экз., стар. 432. Цана 1 руб. 7 кап.

